*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 27 (239)

5 ліпеня 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **У БРАЦІСЛАВЕ ПРАЙШОЎ МІЖНАРОДНЫ СЕМІНАР МІНІСТРАЎ КУЛЬТУРЫ ЕЎРАПЕЙСКІХ КРАІН,** які быў прысвечаны праблемам і перспектывам развіцця культур. У семінары ўдзельнічалі прадстаўнікі з 21 краіны. З дакладам выступіў і міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч.

○ ***У МЕНСКУ АДКРЫТА ГЕНЕРАЛЬНАЕ КОНСУЛЬСТВА РЭСПУБЛІКІ ЭСТОНІЯ.***

○ **У АПОШНЮЮ НЯДЗЕЛЮ ЧЭРВЕНЯ** пад эгідай Камітэта па справах моладзі прайшло чарговае святкаванне Дня моладзі.

○ ***ЯК ВЯДОМА, У НОВЫ ВЯРХОЎНЫ САВЕТ УЖО ВЫБРАНА 119 ЧАЛАВЕК.*** *Сярод іх значная колькасць аграрнікаў. У адным з апошніх нумароў газеты «Звязда» змешчана гутарка з трыма прадстаўнікамі Аграрнай партыі. На пытанне карэспандэнта «Ці можа так здарыцца, што падчас работы новага Вярхоўнага Савета Беларусь стане часткай іншай дзяржавы?» дырэктар саўгаса «Зара» Ваўкавыскага раёна Віктар Пыжык адказаў: «Рэспубліка Беларусь сёння з'яўляецца суверэннай дзяржавай і замахвацца на суверэнітэт нікому не дадзена, у тым ліку і новаму парламенту. Магу адназначна сказаць, што ён ні ў якім разе гэтага не зробіць». На жаль, не ўсе так думаюць, але ёсць надзея, што новы парламент не стане магільшчыкам сваёй краіны і самога сябе.*

○ **У МЕНСКУ СТВОРАНЫ РЭСПУБЛІКАНСКІ ФОНД ПАДТРЫМКІ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ.** Старшынёй фонду абраны генеральны дырэктар Беларускай будаўнічай фірмы Аляксандр Бараноўскі, а сустаршынёй — пісьменніца Раіса Бондар.

***РЭДЗЬЯРД КІПЛІНГ І ФЕНОМЕН БРЫТАНСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ХАРАКТАРУ*** *Стар. 5.*

***РОДНАЯ МОВА БЫЛА ЗБРОЯЙ РЭФАРМАТАРАЎ*** *Стар. 4.*

## Камісія рэкамендуе ведаць дзве мовы і здаваць два экзамены

У сувязі з тым, што майскі рэферэндум у Беларусі прыраўняў статус рускай мовы да статуса беларускай, Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны прыняла пастанову, у якой рэкамендуе міністэрствам і ведамствам Рэспублікі Беларусь ажыццявіць комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на тое, каб супрацоўнікі дзяржаўных установ, арганізацый, прадпрыемстваў належным чынам валодалі і беларускай, і рускай мовамі. Пры гэтым, на думку Камісіі, трэба звярнуць першчарговую ўвагу на вывучэнне той мовы, якой яны не валодаюць або валодаюць у аб'ёме, не дастатковым для выканання службовых абавязкаў.

Другой сваёй пастановай Камісія рэкамендавала Міністэрству адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь увесці для абітурыентаў усіх вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў два абавязковыя экзамены: адзін — па беларускай, другі — па рускай мове.

## *Што? Дзе? Калі?*

Гэта ўжо стала традыцыяй, а таму паўтарылася і сёлета: 28 чэрвеня, у дзень угодкаў смерці Янкі Купалы, у менскім касцёле св.Роха была адслужана імша за душу паэта.

У гэты ж дзень на сталічных Вайсковых могілках ля магілы паэта пад нацыянальнымі сцягамі сабраліся ўсе, каму дарагая памяць нашага славутага земляка.

**У.П.**

## *Здаровы сэнс падказвае: тым, хто хоча нармальна жыць, трэба паразумецца*

А што значыць паразумецца? Наша газета так скіраваная, што вельмі ўважліва ставіцца да ўсіх сэнсавых значэнняў слова. Бо ці не бывае часам так, што нехта прамаўляе адно, а мае на ўвазе зусім іншае. Як было з тым жа словам «камунізм». Змагаліся за тое, каб адабраць у багатых і падзяліць паміж беднымі, а ўрэшце атрымалася, што тыя, хто займаўся дзяльбою чужой маёмасці, з дапамогаю ўзброенай сілы, дзяржаўнага апарату прымусу зрабілі гэта сваёй прафесіяй і да таго ўвайшлі ў смак, што працягвалі дзяліць і тое, што выраблялі бедныя — рабочы клас, сялянства, — на сваю карысць, пакінуўшы пралетарыяту «светлую мару» пра камунізм. Таму мы насцярожана ставімся да тых, хто цяпер кліча народ у «светлае ўчора», някепска ўладкоўваючыся ўжо сёння ля апарату звыклай дзяльбы. Мы ўважліва ўчытваемся і ў назвы палітычных партый — а што за імі? Некаторыя з іх — большасць — назваліся замежнымі словамі, у тым ліку і такім, здавалася б, пашыраным, якое паходзіць ад старажытнагрэцкага «дэмас» — «народ», у той час як сам гэты народ у нас пакуль, здаецца, да канца не дужа і ўцяміў — а што гэта за такое.

Але ж і тое праўда, што, нават назваўшыся тутэйшымі словамі, партыя можа заставацца «катом у мяху». Пакуль не пачынае дзейнічаць. Так сталася і з Партыяй здаровага сэнсу. З аднаго боку — усе партыі кажуць, што яны за «здаровы сэнс», але ж не кожная заклікае зрабіць усё, каб у Беларусі была дзяржаўная незалежнасць, нейтралітэт, рынкавая эканоміка разам з сацыяльнай абаронай насельніцтва. У гэтым сапраўды ёсць сэнс, як і ў тым, каб зараз паяднацца дэмакратычным партыям, грамадскім арганізацыям ды ўсім чэсным людзям і восенню абраць у Вярхоўную Раду адукаваных, чэсных, падрыхтаваных для стварэння добрых законаў дэпутатаў. Такі зварот распаўсюдзіў Выканкам рады Партыі здаровага сэнсу і яе старшыня прадпрымальнік І.І.Каравайчык.

**У.А.**

*Алё!*

# Купалля з «Беларускай маладзёжнай» не адбылося: забаранілі!

**Што ні кажы, а для нашага брата-журналіста надышлі змрачнаватыя часіны. А калі ты яшчэ пры гэтым не проста журналіст, а з павагай ставішся да беларушчыны, тут столькі пры выпадку ахвотнікаў знойдзецца, каб табе ў душу плюнуць, што Божа ты мой!**

...Рэдакцыя незалежнай газеты «Беларуская маладзёжная» нядаўна рашыла свой дзень нараджэння (а дата была сур'ёзная — год існавання) адзначыць у гарадскім парку імя М.Горкага сталіцы. Нават выдатны назоў святу дала: «Купалле разам з «Беларускай маладзёжнай». Запрасілі на адкрытыя пляцоўкі фальклорныя і дзіцячыя калектывы з Менска, Чэрвеня і Заслаўя, вядомыя нацыянальныя рок-гурты — «Крама», «Новае неба» і «НМР»... За ўсё заплачана, пра ўсё замоўлена. Дырэкцыя парку, праўда, папрасіла рэдакцыю атрымаць дазвол у Партызанскім райвыканкаме. 6 чэрвеня сваю рэзалюцыю напісала (на заяве «Беларускай маладзёжнай» да дырэктара парку) намесніца старшыні згаданай «вертыкалі» А.Д.Галалоб: згодная, толькі просіць правесці свята з 17.00 да 20.00, каб дзеці своечасова дамоў трапілі.

І якое ж было здзіўленне галоўнага рэдактара «БМ» Таццяны Мельнічук, калі 20 чэрвеня, за суткі да свята, ёй у парку далі ад варот паварот: так і так, шаноўная, свята не будзе — Партызанскі райвыканкам перадумаў — «адклікаў свой дазвол» (так цяпер гэта называецца): ёсць папера за подпісам спецыяліста па культуры раённай «вертыкалі» Л.Б.Сеннікавай, а тая паведамляе — дазвол на свята не дае гарвыканкамаўскае ўпраўленне культуры.

Чаму?

На гэта і іншыя пытанні беларускіх ды замежных журналістаў адказвалі прадстаўнікі ўпраўлення культуры і УУС Мінгарвыканкама. Падпалкоўнікі і маёры праз мегафоны даводзілі, што свята «адмянілі і ўсім трэба разыходзіцца». А нейкі мужчына і сімпатычная паўнаватая жанчына «ад культуры» тлумачылі, што паколькі «БМ» запрасіла сюды яшчэ і аўтараў, сярод якіх, аказваецца, ёсць і вядомыя палітыкі, то ёсць падазрэнне, што замест свята тут будзе мітынг.

Мы, журналісты, каторыя там былі, далі гэтаму казусу іншую характарыстыку: наступ на дэмакратыю, беларушчыну і незалежныя ад «вертыкалі» сродкі масавай інфармацыі. Ці ведаюць шаноўныя начальнікі, што на дні нараджэння ходзяць нават палітыкі? Нарэшце, чаму і хто рашыў, што, напрыклад, той жа Станіслаў Шушкевіч, віншуючы газету з гадавінай існавання ў нялёгкіх эканамічных і палітычных умовах, будзе заклікаць да гвалту, сеяць нейкую нацыянальную ці сацыяльную варажнечу? Абсурд? Але ўзведзены ў ранг палітыкі, ён і сапраўды ўносіць жорсткасць у душы, знішчаючы беларускую культуру, якая тут мелася сябе паказаць яскрава, шматжанрава і шматпланава.

Тым не менш далей падзеі разгортваліся стыхійна: паколькі пакідаць парк нікому не хацелася, на пляцоўцы ля ўвахода пачалося выступленне рок-гуртоў і асобных бардаў. Былі і некаторыя палітыкі, якія сваімі расповядамі крыху пасмяшылі шаноўную публіку.

Ну, а мае калегі замест святочных сюжэтаў атрымалі унікальныя фотаздымкі і кіна- ды відэакадры — для летапісу аб норавах уладных структур узору 1995 года. Калі яны чуюць слова «беларуская культура», то хапаюцца за мегафон, каб яе забараніць. Так атрымалася і са святам газеты «Беларуская маладзёжная», журналістаў якой кебічаўцы год таму разагналі разам з радыёстанцыяй «Беларуская маладзёжная».

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сябра Аргкамітэта Беларускай асацыяцыі журналістаў.**

# «ЦАРКВА» — новая газета беларускіх грэка-каталікоў

У выдавецтве «Унія» (выдавецкая суполка «Унія» ТБМ імя Ф.Скарыны) выйшаў першы нумар газеты «Царква», заснавальнікамі якой сталі дзве грэка-каталіцкія парафіі з Менска. Рэдакцыя знаходзіцца ў Полацку, яе ўзначаліў іераманах Валеры Алексійчук, які таксама кіруе полацкім грэка-каталіцкім манастыром св.Барыса і Глеба.

Першы нумар прысвечаны вялікаму посту і змяшчае падборку артыкулаў на гэтую тэму. У Слове на Крыжапаклонную нядзелю апостальскі візітатар а.Сяргей Гаек запрашае вернікаў да аднаўлення занядбаных і будовы новых святыняў на нашай зямлі. Багатая і змястоўная рубрыка навінаў расказвае пра жыццё Каталіцкай Царквы на Беларусі і ў свеце. Найлепшым матэрыялам нумара сталі, на мой погляд, урыўкі з папулярных навучанняў вядомага святара з Югаславіі Грыгорыя Планчака, якія заахвочваюць яшчэ раз падумаць пра нашае ўласнае жыццё. Хто я? Што мне рабіць? Дзе маё месца ў гэтым свеце? На гэтыя пытанні спрабуе дапамагчы адказаць а.Планчак. У рубрыцы «Мінулае» публікуецца гістарычны нарыс пра Унію на Падляшшы.

На старонках для дзяцей змешчаны пачатак Біблійнага катэхізісу, які стане добрай чытанкай для дзяцей і дапаможнікам для нядзельных школ. Маладзёжныя старонкі, названыя «Пілігрым», прысвечаныя дзейнасці на Беларусі каталіцкіх супольнасцяў моладзі. Нумар завяршае падборка інфармацыі пра новыя кнігі і публікацыі на рэлігійныя тэмы.

У бліжэйшых нумарах «Царквы» рэдакцыя мяркуе пачаць публікаваць невядомыя на Беларусі казанні Антона Неманцэвіча і працы а.Льва Гарошкі. Гісторык Сяргей Абламейка рыхтуе серыю нарысаў пра «Новую Унію» — адраджэнне грэка-каталіцтва ў Заходняй Беларусі ў 20—30 гг. нашага стагоддзя. Ён абяцае новыя, невядомыя раней факты і арыгінальную канцэпцыю ацэнкі «Новай Уніі».

Падпіску на газету «Царква» з трэцяга квартала г.г. прымаюць усе паштовыя аддзяленні на Беларусі і Украіне. Індэкс газеты ў каталогу 63205. Папярэднія нумары можна набыць у любой грэка-каталіцкай парафіі, у Менску — таксама ў кіёску ТБМ на праспекце Скарыны альбо замовіць у выдавецтве «Унія» (220050, Менск, п/с 224).

**Ігар ІВАНОЎ.**

*Актуальна*

# Аляксандр Падлужны: горыч і аптымізм

***(Гутарка з дырэктарам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук А.Падлужным)***

**— Аляксандр Іосіфавіч, нешта мы перасталі пра Вас чуць. Як маецца Ваш інстытут?**

— Вельмі трапна зададзена пытанне, на якое хочацца адказаць амаль жартоўна: ледзь маемся, але трымаемся. Да гэтага дня ўсе супрацоўнікі атрымлівалі зарплату. Далей будзе горш, бо ўжо многія суседнія акадэмічныя інстытуты «ўмацоўваюць» сваё здароўе без захавання заработнай платы. Прыпыніліся ўцёкі навуковых кадраў, але заманіць каго-небудзь з сёлетніх выпускнікоў не ўдаецца: не прываблівае заработная плата і перспектывы. Страшэнныя цяжкасці з публікацыяй вынікаў даследаванняў. Амаль спыніўся навуковы рост супрацоўнікаў, кожны заняты тым, каб дзе-небудзь хоць штонебудзь падзарабіць.

**— Як Вы ўспрымаеце тое, што адбылося. Якія ўражанні ад рэферэндуму?**

— У нас з даўняга часу вяліся сацыялінгвістычныя даследаванні, таму мы ведалі, што пераважная большасць насельніцтва нашай краіны вельмі станоўча адносіцца да рускай мовы. Не трэба было праводзіць рэферэндум, каб у гэтым упэўніцца. Для спецыялістаў больш важна іншае пытанне: як падняць прэстыж, умацаваць пазіцыі беларускай мовы — мовы карэннага насельніцтва, важнейшага элемента і інструмента культуры. Рэферэндум на гэта пытанне не мог даць адказу. А ўзрадаванае чыноўніцтва адразу ж пасля рэферэндуму пачало рэалізацыю сваёй задумы: з новага навучальнага года мову навучання ў школах будуць вызначаць бацькі! І будзем мы зноў самымі арыгінальнымі ў свеце, бо як быццам нідзе ў свеце такога няма, і дзяржаўнае кіраўніцтва здымае з сябе ўсю адказнасць. Праўда, няясна, як воля бацькоў будзе выяўляцца — простай большасцю галасоў ці канстытуцыйнай, на сходзе ці па пісьмовых заявах?

У ВНУ экзамен можна здаваць па выбару: якую мову лепш ведаеш, тую і здавай. Гэта моцны падмурак для таго, каб у далейшым даць магчымасць і выбару мовы як вучэбнага прадмета.

Уяўляю сабе М.В.Ламаносава, які ўжо дарослым латынь зубрыў, а над ім насміхаліся, каб ён заявіў пратэст. Ці наш Ф.Скарына разам са сваімі землякамі падняў бунт у Кракаве адносна мовы навучання. Ці былі б яны тым, чым сталі для сваіх краін? А ў нас, як пісала адна вядомая расійская газета рукою нашага земляка, шасцігодкі-першакласнікі бунты наладжвалі.

У інстытуце мы вельмі добра адчулі вынікі рэферэндуму. Ужо гадоў пятнаццаць выходзіць штогоднік «Беларуская лінгвістыка». Зусім нядаўна выйшаў з друку выпуск 43. Тыражом аж 260 экземпляраў. Такога яшчэ не было, бо выданне карысталася попытам як у нас, так і за мяжой. За мяжой не менш, чым у нас. А зараз нават гэты мізэрны тыраж ні адна гандлёвая арганізацыя не бярэ, і ляжыць ён на складзе ў выдавецтве «Навука і тэхніка». А вось на кнігу, прысвечаную дыялектнай лексіцы, паступіла заказаў на 84 экземпляры, з іх «Белкніга» заказала аж два экземпляры.

**— Якія Вашы ўражанні ад настрою ў грамадстве?**

— На маю думку, адносна моўнага пытання настрой у розных пластоў грамадства і розных палітычных плыняў розны. Для большасці нашых грамадзян моўнае пытанне знаходзіцца па-за межамі светлага пункта свядомасці, хоць нельга думаць, што кожны, хто прагаласаваў за першае пытанне рэферэндуму, супраць беларускай мовы. І здаецца, што ў бліжэйшы час будуць яўныя пацвярджэнні гэтаму. Як толькі гэта выявіцца, дзяржаўныя дзеячы ўсвядомяць неабходнасць распрацоўкі грунтоўнай моўнай палітыкі і яе ажыццяўлення пад строгім дзяржаўным кантролем. Святочны настрой у тых, хто ўсяляк імкнуўся справакаваць правядзенне рэферэндуму. Пад моцным шокам павінны знаходзіцца тыя, хто ўсяляк прыспешваў выкананне Закона аб мовах у поўным аб'ёме, а галоўнае, хто апошнія гады займаўся ганьбаваннем той літаратурнай мовы, якая склалася ў савецкі перыяд, хто патрабаваў і рэальна праводзіў «рэфармаванне» зусім па-партызанску, а фактычна разбураў мову і тым самым таксама правакаваў рэферэндум. Між іншым, іменна ў асяродку гэтых апантаных, па-свойму адданых беларускай мове людзей яшчэ ў другой палове 80-х гадоў і пачала выносіцца ідэя правядзення рэферэндуму па моўных пытаннях.

Ёсць значная колькасць людзей, у тым ліку сярод мовазнаўцаў, якія лічылі і лічаць, што галоўная задача і да рэферэндуму, і пасля яго заключаецца не столькі ва ўнутраным удасканаленні беларускай мовы, колькі ва ўмацаванні яе пазіцый у грамадстве, павышэнні яе прэстыжнасці, што патрабуе часу, цярпення і дасканалых ведаў.

**— Што б Вы пажадалі свайму інстытуту?**

— Каб беларуская мова, па меншай меры, мела такі ж статус у грамадстве, як і руская. У гэтым сэнсе мае пажаданні амаль супадаюць з тым, што выражана ў рэферэндным пытанні Прэзідэнта.

Каб праца беларускіх мовазнаўцаў знаходзіла маральную падтрымку з боку грамадскасці і трошкі матэрыяльную з боку дзяржавы.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*У газетах*

# Ці застануцца ў гэтым свеце беларусы?

Як ніколі раней, бурліць наша грамадства. Яго пэўная частка сапраўды, здаецца, атрымала асалоду ад таго, як у час рэферэндуму беларусы ўласнымі рукамі паставілі крыж на асновах сваёй нацыянальнасці, самастойнасці Беларусі. На вуліцах і ў магазінах, нават у сем'ях успыхваюць дыскусіі. Зусім нядаўная таксама быў удзельнікам такой баталіі, калі ехаў у электрычцы з Мінска да сябе на радзіму. Добра знаёмы, паважаемы мною чалавек звярнуўся да мяне з пытаннем аб мэтазгоднасці галасаваць за прапановы «ўсенароднага» абранага Прэзідэнта. Высветлілася, што для майго суразмоўцы мова — з'ява другарадная, галоўнае — эканоміка, матэрыяльная забяспечанасць, якой спрыяць быццам бы будзе Расія. А вось бел-чырвона-белы сцяг, «Пагоня» — сімвалы здрадніцкія, фашысцкія, а пры савецкай уладзе, маўляў, было ўсім хораша. Я слухаў уважліва, цярпліва, без пярэчанняў. Але мяне ў тых выказваннях здзівіла вельмі многае. А больш за ўсё тое, што мой знаёмы — беларус, што яго бацьку знішчылі як ворага савецкай улады і нацдэма, як прадстаўніка найбольш працавітай і ўдумлівай часткі беларускага сялянства. Міжволі падумалася: як такое магло здарыцца, што забыў чалавек трагедыю роду свайго. Мозг шукаў адказу. І тут успомнілася, што мой знаёмы уступіў у КПСС, удзельнічаў у вайне супраць фашызму, стаў афіцэрам, потым у савецкай іерархіі займаў сярэднія кіруючыя пасады, у час вучобы прайшоў курс хлуслівай гісторыі, не меў аніякага ўяўлення аб сапраўдным мінулым беларускага народа, яго сімвалах, аб лёсе яго мовы і яе ролі ў станаўленні нацыянальнага характару беларусаў. Таму дагматызм савецкага часу ўвайшоў у свядомасць майго спадарожніка ўжо на генным узроўні і не даваў яму магчымасці самастойна думаць і пранікаць у сутнасць сучасных, больш чым заблытаных грамадскіх працэсаў, да якіх як раз і прывяла савецкая ўлада шляхам знішчэння каля мільёна не проста прадстаўнікоў беларускага народа, а лепшай часткі беларускай нацыі, стварэння хваравіта залежнай эканомікі, у асноўным, — толькі для патрэб СССР, прыніжэння чалавечай асобы.

Вярнуўся ў Мінск. Адчуў адразу ж павелічэнне агрэсіўнасці інтэлектуальнага наступу адпаведнай, значнай часткі нашых грамадзян на беларускасць наогул. Заходжу, напрыклад, у прыёмную рэктара аднаго з інстытутаў. А там «і.о.» загадчыка адной з кафедраў зняважальна выказвае літаральна наступнае: «Как хорошо, что белорусский язык отменяется, отлетит сейчас всякая белорусская шелуха». Мне і раней прыходзілася чуць ад яе прыкладна такія брыдоты: «Пусть помолчат эти белорусы, мы приехали, их хоть чему-то научили». Аднак мне добра вядома, што ніхто гэтую даму сюды не запрашаў. Яна прыехала з бацькам, які быў прысланы для мацавання савецкай улады і працаваў міністрам ці намеснікам міністра. Быццам бы нельга было знайсці на гэтую пасаду карэннага жыхара. У гарадах Беларусі рускіх у сярэднім 20—25 працэнтаў. Значная іх частка была прыслана зноў жа для мацавання саветаў або ваеннай моцы СССР.

Не пазбеглі наступу на беларускасць і ўрачыстасці ў гонар 50-годдзя Перамогі. Тут беларускім духам зусім і не пахла. Наадварот, многае зводзілася да таго, каб мы адчувалі нават няёмкасць за любоў да сваёй роднай Беларусі. Бо ўсюды гучала адно — «великий советский народ». А між тым, калі б не было Беларусі, як буфера, то фашысцкія полчышчы яшчэ да 1-га кастрычніка 1941 года дакаціліся б да Урала. І перамога была б зусім іншай.

Я пішу ўсё гэта зусім не для таго, каб распаліць варожасць. Пішу таму, што наступ антыбеларускіх сіл, іх агрэсіўнасць павялічваюцца. Ціск на простага, даверлівага беларуса нарастае, каб ён не разабраўшыся выступіў супраць самога сябе.

Адзначу, што вынесеныя на рэферэндум пытанні патрабавалі не толькі ўзважанага падбору фармуліровак, але і дастатковага часу для разгляду ў самых процілеглых варыянтах сродкамі масавай інфармацыі, што так і не адбылося. Таму прэзідэнцкі рэферэндум, па сутнасці, толькі адцягнуў увагу народа ад самых неадкладных жыццёвых праблем і, як і варта было чакаць, прывёў да сур'ёзнага абвастрэння напружанасці ў грамадстве.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар.**
*(З газеты «Свабодныя прафсаюзы», № 23, 95 г.)*




# «Беларускі кнігазбор»

Асобнай брашурай выйшаў з друку анатаваны план-каталог шматтомнага выдання беларускай літаратуры і літаратуры пра Беларусь ад старажытнасці да нашых дзён. У ім пазначана 180 пазіцый. Ужо з аднаго пераліку імёнаў і назваў кніг відаць, якую багатую і непаўторную маем мы літаратурную спадчыну. На жаль, нямногія з жыхароў нашай краіны гэта ведаюць. Таму сам план-каталог з'яўляецца дапаможнікам для вывучэння духоўных набыткаў беларускага народа. Брашура дае добрае ўяўленне пра асноўныя вехі тысячагадовага развіцця нашай літаратуры, а таксама пра здабыткі ў галіне гісторыі, этнаграфіі і фалькларыстыкі. Міжнародны Фонд «Беларускі кнігазбор», які распачынае гэтае унікальнае выданне, выказвае шчырую падзяку навукова-камерцыйнай фірме «Претти» за дапамогу ў выпуску план-каталога.

Азнаёміцца з брашурай і набыць яе можна ў шапіку ТБМ, што на праспекце Ф.Скарыны, ці ў Доме літаратара, у пакоі 209.

# Кола сям'і

## І канфліктаваць трэба культурна

Відаць, варта пагадзіцца з тым, што ў любой чалавечай супольнасці не абысціся без супярэчнасцяў, а значыць канфліктаў. Больш таго, псіхолагі прызнаюць, што гэта ў пэўнай ступені карысна, бо толькі спаборніцтва інтарэсаў і меркаванняў здольнае развіваць грамадства і асобу. Калі гэта забараняць сілай, то непазбежна наступае ўсеагульная апатыя і застой, з аднаго боку, і праява дзікіх хуліганскіх учынкаў — з другога. Што даказала яскрава камуністычнае панаванне, рэцыдывы якога мучаюць Беларусь і зараз. Так што памылкова рабіць выгляд, што ніякіх супярэчнасцяў няма, нічога не адбываецца, усе задаволеныя рэчаіснасцю. Куды лепш распрацаваць правілы, як «канфліктаваць», памятаючы заўважаныя псіхолагамі наступныя заканамернасці:

У цяжкім бескампрамісным канфлікце не бывае пераможцаў — прайграюць усе, абодва бакі. Таму лепей не параўноўваць ступень вінаватасці («Ён болей вінаваты, а я ўвогуле ні пры чым...») Бярыце на сябе першы крок — гэта якраз паказчык вашай сілы характару, годнасці і самапавагі.

Калі гэта на працы, у калектыве, то пачніце размову (прычым вельмі спакойна) з апісання канкрэтнай сітуацыі, якая вам здаецца несправядлівай, пастарайцеся пры гэтым быць як мага аб'ектыўнымі. Чым падрабязней, дэталёва вы будзеце пра гэта гаварыць, тым лепей. Калі магчыма, прыводзьце канкрэтныя прыклады: «Мы дамовіліся, што за гэту працу вы мне заплаціце столькі і столькі, а цяпер называеце іншую суму», «Вы некалькі разоў зрабілі мне заўвагу ў прысутнасці ўсіх супрацоўнікаў...»

Скажыце ўсё, што вы адчуваеце ў сувязі з гэтай сітуацыяй. Мноства канфліктаў паміж людзьмі ўскладняецца наяўнасцю думак і пачуццяў, што не былі выказаныя. Іншым разам толькі адно іх праясненне, абмен гэтымі прыхаванымі пачуццямі дазваляе значна змякчыць канфлікт, а то і вырашыць яго. Старайцеся ўжываць простыя словы — «раззлавацца», «пакрыўдзіцца», «спалохацца», «калі вы гэта сказалі, я страшэнна раззлавалася...»

Потым пастарайцеся ўважліва выслухаць супрацьлеглы бок — гэта, відаць, самае цяжкае. Вы павінны памятаць, што вашы меркаванні розныя і гэта натуральна, з-за гэтага і ўзнік канфлікт. Таму ўспрымайце гэтыя выказванні не як ісціну, а як вынік вопыту суразмоўцы. Паўторым: пастарайцеся быць дысцыплінаваным слухачом — не перабівайце, не пярэчце, не спрачайцеся, асабліва сходу. Пакажыце суразмоўцы, што вы сапраўды ўважліва яго слухаеце, а не проста робіце такі выгляд, што імкняцеся дасягнуць згоды. Не саромцеся падкрэсліць гэта знешне — рухам галавы, просьбаю прывесці канкрэтны прыклад — вам гэта дапаможа выслухаць, а суразмоўцы — настроіцца на шчырую размову. Калі канфлікт вельмі сур'ёзны, звярніцеся да «нейтральнага» чалавека, які змог бы вам дапамагчы без зрываў выслухаць адзін аднаго.

Цяпер вельмі карысна разабрацца ў прыхаваных думках.

Калі ўсчаўся канфлікт, вельмі карысна своечасова разабрацца ў прыхаваных думках. «Прыхаваныя думкі» — гэта здагадкі, апаскі, меркаванні аб пачуццях і думках другога. Каб пераканацца, сапраўдныя яны ці надуманыя, лепей за ўсё спытацца пра гэта прама. Калі ж вас у сваю чаргу пытае пра тое ж суразмоўца, пастарайцеся самі быць дастаткова шчырымі, таму што здагадкі, як правіла, маюць пад сабой рэальную глебу. «Мне здаецца, што вы не задаволены маёй працай, хочаце, каб я звольніўся!» — «Так, мне сапраўды не падабаецца, што вы кожны дзень пакідаеце рабочае месца раней дазволенага, але я вельмі высока стаўлюся да вас як спецыяліста».

Стрымайцеся, не каменціруйце, падводзячы рысу пад вашай размовай. Вылучце тыя пункты, па якіх вашы думкі, пачуцці, дзеянні супалі, і пытанні, па якіх яны адрозніваюцца, — абмяжуйце зону супярэчнасцяў.

Пастарайцеся выказаць канкрэтныя прапановы па змене сітуацыі, паводзін і г.д. «Я прашу вас не крытыкаваць мяне ў прысутнасці іншых», «Я хацеў бы, каб за гэтую працу мне плацілі ў адпаведнасці з нашай ранейшай дамовай».

Напрыканцы размовы абмяркуйце, што зменіцца, калі гэтыя змены адбудуцца. Не варта пагражаць і ставіць ультыматум: вопыт паказвае, што пазітыўныя перспектывы больш прывабныя. Азначце, якая «ўзнагарода» з вашага боку будзе, калі чалавек зменіць свае паводзіны ў адпаведнасці з вашай просьбай.

«Калі ты будзеш прыходзіць дадому раней, я не буду нервавацца і змагу дапамагчы табе ў тваёй працы».

Такі спосаб вырашэння канфлікту патрабуе ад вас пэўнай рашучасці. Але калі вы будзеце шчырымі і чэснымі ў гэтай размове, вашы адносіны не сапсуюцца, а стануць больш паважлівымі.

У складаных выпадках можна нават саставіць «сцэнар» і адрэпеціраваць яго — бо ўсё роўна ж у галаве «пракручваюцца» гэтыя магчымыя размовы («А я яму скажу... А ён мне адкажа...»). Дык лепей гэтыя думкі скіраваць у канструктыўнае рэчышча!

Добрае вырашэнне канфлікту можа адкрыць новыя магчымасці ў вашых узаемаадносінах.

**По матэрыялах сучасных амерыканскіх псіхалагічных даследаванняў.**

## Рэдзьярд Кіплінг і феномен брытанскага нацыянальнага характару

Народ Англіі прыцягнуў да сябе асаблівую ўвагу блізкіх і далёкіх суседзяў з таго часу, калі насуперак бедам і перашкодам спачатку пазбавіўся іншаземнага прыгнёту, а затым стаў настолькі магутным і заможным, што з ім вымушаны былі лічыцца ўсе дзяржавы сусвету. Даследчыкі вызначылі некалькі прычын гэтага феномену, у тым ліку ці не адну з галоўных — своеасаблівасць брытанскай сям'і і ўрэшце брытанскага нацыянальнага характару, выкаванага адпаведным выхаваннем. Адным з тых, хто здолеў паказаць сутнасць гэтага выхавання літаратурнымі сродкамі, лічыцца знакаміты Рэдзьярд Джозэф Кіплінг (1865—1936), якога ў савецкі час ахрысцілі англійскім рэакцыйным пісьменнікам і апалагетам брытанскага імперыялізму. Нават ягоную кнігу «Маўглі», выдадзеную ў 1896 годзе, яшчэ ў 50-я гады ў савецкіх універсітэтах называлі... антысавецкім творам, таму што яе любімага ўсімі героя праследуе зграя чырвоных сабак. Потым расійскія перакладчыкі «перафарбавалі» іх у «рыжых», а адпаведнаму раздзелу далі назву «Дзікія сабакі».

Верш Рэдзьярда Кіплінга, які прапануецца ўвазе чытачоў, лічыцца паэтычнай квінтэсэнцыяй тых «правілаў паводзін джэнтльмена», на якіх гартаваўся брытанскі нацыянальны характар.

***Рэдзьярд КІПЛІНГ***

### Калі

*Сабой валодай — хай натоўп кляне*
*Цябе за ўласныя ж манеры.*
*Вер у сябе насуперак мане*
*І не крыўдуй на малавераў.*
*Чакай свой час, цярпі і ў тлуме.*
*Няхай ілгуць — не падыходзь да іх.*
*Даруй усім, і аднаго не думай,*
*Што ты мудрэйшы за другіх.*
*Вучыся думаць — бойся летуценняў:*
*Ёсць і ў філосафаў імжа.*
*Ці хваляць, ці клянуць — няма адценняў,*
*Не забывай — усё гэта ілжа.*
*Застанься нем, калі тваім жа словам*
*Абылганым балваняць прастакоў.*
*Калі жыццё разбурана, то znову*
*Павінен ты падняць усё з асноў.*
*Калі гуляць — пастаў у спадзяванні,*
*Што ашчаджаў і нажываў гарбом.*
*Не пашанцуе, лясне ўсё дазвання —*
*Не пашкадуй, не будзь рабом.*
*Умей прымусіць нервы, сэрца, цела*
*Табе служыць, калі ў грудзях*
*Даўно ўсё пуста, усё згарэла.*
*Сабе скажы: «Ідзі. Не скончан шлях».*
*Будзь простым, размаўляючы з царамі,*
*Натоўпу не кажы маны.*
*Будзь цвёрдым з ворагам і гэткім жа з сябрамі,*
*Няхай з табою лічацца яны.*
*Умей напоўніць сэнсам гожым*
*Сваё жыццё, імклівы век,*
*Тады сусветам уладарыць зможаш,*
*Тады, мой сын, ты будзеш чалавек.*

**Па-беларуску пераклаў Эрнэст ЯЛУГІН.**

***Жорж СІМЕНОН***

## Жанчына — маці — Дом

Працэс распаду сям'і, што была доўгія вякі асновай чалавечага існавання, паглыбляецца. Гэта заўважаюць, а таму пэўны год абвяшчаюць Годам жанчыны. Якой жанчыны? Той, што імкнецца быць маці сям'і, гаспадыняй дамашняга ачага, а вельмі часта і галавою сям'і, ці той, што прагне эмансіпацыі, у сем раніцы пакідае мужа і дзяцей у кватэрцы дзяшовага муніцыпальнага дома, імчыць на чыгуначную станцыю, паўгадзіны, калі не ўсе сорак пяць мінут трасецца ў цягніку, перасаджваецца ў метро ці аўтобус і потым сядзіць да шасці вечара на адным месцы, быццам прышытая, робячы аднастайныя механічныя рухі і не маючы ўвесь гэты час кантакту са сваімі блізкімі?

А шостай вечара паездка ў адваротным накірунку — да таго, што даўней называлася домам, а зараз дзяшовай муніцыпальнай кватэрай для рабочых. А дзе былі дзеці ўвесь гэты час? У безыменных яслях пад прыглядам жанчыны, якая мае нейкі дыплом, што зусім не азначае наяўнасці мацярынскіх пачуццяў, і каторая проста не можа ставіцца па-мацярынску да сарака, а то і пяцідзесяці малых?

А калісьці існавалі бабулі, цёткі, сваячкі, суседзі.

Сваіх суседзяў людзі цяпер не ведаюць. Цёткі працуюць у горадзе, размешчаным на адлегласці двухсот ці трохсот кіламетраў, і ў іх тыя ж самыя праблемы. Ну, а для бабуль у муніцыпальных кватэрках няма месца. Яны альбо працягваюць жыць у сваім дамку дзе-небудзь у вёсцы, альбо ад іх пазбавіліся, змясціўшы ў дом грамадскага догляду.

Яны таксама адзінокія, як іхнія дзеці і ўнукі.

Памятаю, калі я жыў у Канектыкуце (ЗША. — **Рэд.**), уладальнікі некалькіх фабрык, галоўным чынам ткацкіх, вырашылі перабазіравацца ў паўднёвыя штаты, дзе ім бясплатна адводзілі неабходныя землі пад цэхі і вызвалялі ці то на дзесяць, ці то на дваццаць гадоў ад падаткаў.

Літаральна з дня на дзень перад рабочымі павінен быў паўстаць выбар: ехаць з фабрыкай, гэта значыць адарвацца ад каранёў, ці застацца без работы.

Праз дваццаць гадоў я бачу, як тое ж самае адбываецца ў Францыі. Больш не існуе ні роднай вёскі, ні роднага горада, ні роднай правінцыі. Усё пакідаецца разам — не толькі старыя, не толькі сябры, але і звычкі, і ўсё астатняе, што састаўляла сэнс жыцця.

І — следам за фабрыкай.

Дзе ж сам чалавек у гэтым бегу наперад? У бегу, што вядзе не толькі да забруджвання рэк і лясоў у самых прыгожых мясцінах, але і рве сувязі, што ствараліся многімі вякамі...

...То якая можа быць сям'я, якая можа быць сямейная пара, калі жанчына з раніцы да вечара занятая не дома, калі ёй даводзіцца выбіраць, ці ісці за мужам туды, куды кліча яго работа, ці ехаць туды, куды клічуць яе свае ўласныя абавязкі?

А як з дзецьмі?

Хутка, верагодна, імі паспрабуе заняцца, як у Спарце, дзяржава. Яслі — гэта ўсяго толькі сурагат сям'і. Дзяржава ўжо бярэ на сябе клопат аб дзецях і кіруе юнымі розумамі двух- і трохгадовых дзяцей.

Гэта прагрэс?.. Але прагрэсам я гэта назваць не магу. Сапраўдным ён можа быць толькі ў гармоніі чалавека з ягоным асяродкам.

**З кнігі «Un banc an soleil» («Лаўка на сонейку»).**

## Мудрыя гавораць...

**Луцый Аннэй Сенэка** (каля 4 да н.э. — 65 н.э.) — адзін з самых вядомых пісьменнікаў Старажытнага Рыма. Ён праславіўся як філосаф, аўтар трактатаў, у якіх адлюстраваныя асноўныя прынцыпы рымскага стаіцызму. Акрамя таго, быў Сенэка і буйным трагічным паэтам, чые творы паспрыялі ўсталяванню еўрапейскай драмы Адраджэння і Новага Часу. Нямала цікавага вядома і пра жыццё самога філосафа, якое нярэдка адхілялася ці проста супрацьстаўлялася яго дэклараваным жыццёвым прынцыпам. Дастаткова ўспомніць, што Сенэка быў выхавацелем Нерона, крывавага Рымскага імператара, і шмат удзельнічаў у палітычных падзеях таго часу. Тым не менш, мудрасць Сенэкі, захаваная ў рукапісах, не траціць сваёй вартасці. Прапануем чытачам рубрыкі «Кола сям'і» падборку цытатаў са знакамітага этычнага твора філосафа «Маральныя лісты да Луцылія».

Нярэдка вучаць спадману тым, што спадману баяцца, і падазрэннямі даюць права быць здраднымі.

Няхай той, хто ўвойдзе ў наш дом, дзівіцца на нас, а не на наш посуд.

Вялікі той чалавек, хто гліняным посудам карыстаецца як срэбным, але не менш вялікі і той, хто срэбным карыстаецца як гліняным.

Што ж будзе... з нашай маральнасцю, калі супраць яе паўстане цэлы народ? Абавязкова ты або пачнеш прыпадабняцца яму, або яго ўзненавідзіш. Між тым і таго, і другога трэба пазбягаць: нельга прыпадабняцца злым дзеля таго, што іх многа, нельга ненавідзець многіх дзеля таго, што ім не прыпадабняешся.

Жыві так, быццам заўтра пераедзеш!

Грошы нікога не зрабілі багатым — наадварот, кожнага яны робяць яшчэ пажадней да грошай.

Асалоду прырода прымяшала да рэчаў неабходных, не дзеля таго, каб мы яго дамагаліся, а каб дзякуючы гэтаму дамешку зрабілася прыемней для нас тое, без чаго мы не можам жыць. А з'явіцца самадастатковая асалода — і пачынаецца вычварэнства.

Як пышнасць баляў і адзежы ёсць адзнака хваробы, ахапіўшай дзяржаву, так і вольнасць мовы, калі сустракаецца часта, сведчыць пра падзенне душаў, з якіх сыходзяць гэтыя словы..

Ёсць два віды асалоды. Цялесныя асалоды хворасць абмяжоўвае, але не адымае і нават, калі правільна разважыць, робіць вастрэй. А ў задавальненнях душэўных, якія і больш, і надзейней, ні адзін лекар хвораму не адмовіць.

Каханне не жыве з бояззю.

## Будзьма ў «сямейным» гуморы

- Каханне — гэта прастора і час, прызначаныя дзеля сэрца. Бо хоць толькі шчасце з'яўляецца гаючым для цела, смутак і жальба развіваюць сілу духу.
- Добрая кухня — гэта, калі стравы маюць смак таго, з чаго іх прыгатавалі.
- Калі б нарачоныя ведалі пра сваіх абранніц тое, што ведаюць пра нявест іх мацяркі, свет быў бы поўны халасцякоў.
- Мужчына, які добра спраўляецца на кухні, — цудоўны прыяцель, чуллівы каханак, а часам і зносны муж.
- У маёй мамы то работа ў руках гарэла, пераважна катлеты.
- Не кажы нікому, што дзеецца дома.
- Калі ўбачыш моль, што вылятае з шафы, крычы: «Лавіце злодзея!»

❑❑❑

Жонка прачнулася ноччу і кажа мужу:

— Антоська, я не магу заснуць.

— Як гэта не можаш?

— Я вось думаю, можа ты мне хоць новае паліто купіш.

— Куплю, спі.

— І новы капялюш да паліто...

— Куплю...

— Які ты добры, мой Антоська...

— Надта не цешся...

— А чаму?

— Я гутару з табой праз сон...

2 ГІСТОРЫЯ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ

У IX стагоддзі на старажытных беларускіх землях пачынаюць утварацца першыя княствы. Іх цэнтрамі становяцца Полацак і Тураў.

У апошняю чвэрць X стагоддзя ў Полацку княжыць Рагвалод. Сыны Святаслава, Яраполк і Уладзімір паслалі сватоў да Рагвалодавай дачкі Рагнеды. Летапіс гаворыць, што Рагнеда адказала так: „Не хочю розути робычича, а за Ярополка иду".

БЭНС

БЭНС

БЭНС

Калі Уладзіміру перадалі адказ Рагнеды, ён у 980 годзе напаў на Полацк, зруйнаваў горад, забіў Рагвалода і яго двух сыноў, а Рагнеду забраў у Кіеў і прымусіў быць сваёю жонкаю. Ад яе ён меў чатырох сыноў, старшы з іх быў Ізяслаў.

Рагнеда не магла забыць сваёй крыўды і аднойчы хацела забіць Уладзіміра. Ён кінуўся за меч, каб засячы гордую палачанку, але маленькі Ізяслаў стаў таксама з мечам на абарону сваёй маці. Гэты маленькі абаронец так спадабаўся Уладзіміру, што ён даў яму дзедзічнае Полацкае княства. А для Рагнеды ён збудаваў каля Менска новы горад Ізяслаўль. Там Рагнеда і памерла.

Працяг будзе.

Аўтар гэтага гістарычнага комікса, пачатак якога надрукаваны ў № 23—24, — Дзмітры Палікарпаў (у тым нумары ягонае прозвішча не было пададзена — перапрошваем). Сёлета ён закончыў Акадэмію мастацтваў Беларусі, на «выдатна» абараніў дыплом. Віншуем Дзмітра і зычым яму творчых поспехаў.

**У фонд газеты «Наша слова» ахвяравалі:**

Раіса Жук-Грышкевіч (Канада) — 20 долараў ЗША

Валянціна Выхота (г. Менск) — 28 500 рублёў.

*Шчыра дзякуем!*

Шаноўныя чытачы!

Колькасць падпісчыкаў на газету «Наша слова» знізілася. Мяркуем, такое здарылася з прычыны часовага прыпынення выдання газеты. Але, верагодна, некаторыя з нашых сталых чытачоў не падпісаліся таму, што калектыў рэдакцыі не здолеў спатоліць іх поўных патрабаванняў да зместу газеты. Чакаем вашых прапаноў.

Нагадваем, што падпіска на «Наша слова» працягваецца.

Наш індэкс — 63865.

Падпісная цана:

на 1 месяц: 2500 рублёў у Менску,

2000 рублёў па краіне.

## І СМЕХ І ГРЭХ

### Пачутае «У Лявона»

* * *

— Такая прыгожая маладзіца, відаць, што закахалася ў цябе, а ты яе пазбягаеш...

— У яе да мяне слабасць, а я да яе не маю моцы.

* * *

— Што там у вас сёння на абед? Нясіце лепшае, бо я з Ганкай.

— Дзеля таго, хто з Ганкай, прапануем манку.

* * *

— Якое шчасце, што ты маеш вушы! — кажа стары наведвальнік шынка свайму знаёмаму, што прыйшоў у новай шапцы.

— Так, сапраўды, мае вушы — гэта маё шчасце, яны ніколі не перадаюць языку тое, што пачулі...

— Але, каб не твае вушы, то твая шапка паламала б табе плечы.

* * *

— І гэта яна табе такое зрабіла?! Во дык змяя.

— Каб жа змяя, яны ж, кажуць , мудрыя.

* * *

— Што ты робіш з грашыма!

— абураецца муж сталай наведвальніцы шынка.

— Я і сама пра гэта не раз думала.

* * *

— Пра некаторых жа наогул не пачуў бы аніводнага добрага слова, калі б самі пра сябе не гаварылі.

* * *

— Гляджу я на цябе і згадваю Дарвіна...

— А хто гэта такі?

— Гэта быў англійскі натураліст, славуты вучоны.

— І ты хацеў сказаць, што я на яго падобны?

— Не, але ён быў перакананы, што чалавек паходзіць ад малпы...

* * *

Увайшла бабуля ў вагон з поўным кошыкам, села і сядзіць. Аж вось і білеты правяраюць.

— Бабусю, — кажа кандуктар, — у вас ёсць білет?

— Ёсць, — кажа тая, паказваючы.

— Гэты не гадзіцца, — кажа кандуктар, гледзячы на білет.

— Як не гадзіцца?! — здзіўляецца бабуля. — Сем дзён гадзіўся, а цяпер не гадзіцца?!

### Пародыі

*Георгій ЮРЧАНКА.*

#### У сваім пакоі

*я — гаспадар*
*у сваім пакоі.*
*....................*
*Прысяду на родным парозе,*
*падумаю трохі.*

**Святаслаў Макаль.**

Маю свой пакой на славу —
шафа, вешалка, замок,
новы стол ды стул кульгавы,
этажэрка, дыванок.
Цыгарэты і махорка —
ўсё сваё, не трэ «страляць».
У куточку цацак горка,
слаўна ранкам пагуляць.
Злева — эздаль ля парога,
справа — ложак пры сцяне.
Ведай, прыме ён любога,
рассцялі яго ці не.
У бутэльцы — вязкі клейстар.
Кніг паліца. Але знай:
што ні аўтар — кожны бездар,
ці чытай, ці не чытай.
Іх гартаеш як няшчасце,
горка коўтаеш тугу...
Толькі кнігу «Дзверы насцеж»
я як вока берагу.

### Афарызмы

Конь — самая прыгожая здабыча чалавека.

**Французскі натураліст.**

Калі б мусілі вывучаць усе законы, не хапала б часу на іх парушэнне.

**Вольфганг Гётэ.**

Ніводная сапраўдная праблема не можа быць развязаная, сама лепшае, што можна дзеля яе зрабіць, гэта забяспечыць яе існаванне.

**Шарль дэ Голь.**

Пытацца, хто мае быць шэфам, гэтак жа сама бязглузда, як пытацца, хто мусіць быць тэнарам у квартэце. Зразумела, што той, хто зможа спяваць тэнарам.

**Генры Форд.**

Не люблю працы — кожны чалавек яе не любіць. Люблю аднак жа тое, што дае праца: гэта шанц знайсці сябе, сваю існасць — дзеля сябе самога і дзеля іншых.

**Джозэф Конрад.**

Работнікі разумовай працы стараюцца, каб жывіцца з сваёй галавы. Жывіць іх яна ў наш час лепш, калі выдумаць тое, што зашкодзіць шмат каму.

**Бертольд Брэхт.**

Выпадковыя адкрыцці надараюцца толькі падрыхтаваным галовам.

**Блез Паскаль.**

Калі быць сабой, трэба быць асобай.

**Станіслаў Ежы Лец.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 2332

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3970 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 3.07.1995 г.
у 15 гадзін.